# Прысуд пад капірку

## Мінскі гарадскі суд даў згоду на зняволенне дэпутата Андрэя Клімава і ягонага былога намесніка Леаніда Валковіча

Алесь ПАЎЛОВІЧ

**«Прысуд пакінуць без зменаў, у касацыйнай скарзе адмовіць» – такое рашэнне прыняла калегія Мінскага гарадскога суда, якая на працягу двух дзён разглядала касацыйную скаргу дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання бізнесмена Андрэя Клімава, ягонага былога намесніка на фірме Леаніда Валковіча і прараба Уладзіміра Лук'янчука.**

Нагадаем, што ў сакавіку пасля 8-месячнага разгляду Ленінскі раённы суд вырашыў, што А.Клімаў і ягоныя падначаленыя вінаватыя ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасці ў буйных памерах падчас будаўніцтва элітнага дома на Лодачнай вуліцы ў Мінску. Андрэю Клімаву далі шэсць гадоў калоніі, Леаніду Валковічу – чатыры, прарабу Лук'янчуку – тры гады з адтэрміноўкай.

Абвінавачаныя з прысудам не пагадзіліся і абскардзілі яго ў гарадскім судзе, але той, як бачым, усё пакінуў без зменаў. Цяпер, паводле абаронцаў асуджаных, яны будуць звяртацца да старшыні гарадскога суда і потым у Вярхоўны суд. Аднак спадзяванняў на станоўчы вынік усё менш.

«Чым вышэй па судовай лесвіцы, тым большая залежнасць суддзяў ад улады, таму можна разлічваць толькі на аб'ектыўнасць міжнародных суда. Я па-ранейшаму перакананы, што мой падабаронны дэпутат Клімаў не вінаваты, пераследуюць яго выключна з-за палітыкі, а тую спрэчку, якая існавала паміж ім і гарадскімі ўладамі па гаспадарчых пытаннях, трэба было вырашаць у гаспадарчым судзе», – заявіў вядомы праваабаронца Гары Паганяйла. Ён таксама адзначыў, што і падчас касацыйнага разгляду, як і на першым працэсе, парушаліся правы А.Клімава на абарону. У прыватнасці, разгляд касацыі адбываўся ў адсутнасць самаго асуджанага, хаця ён рашуча настойваў на сваім удзеле ў паседжанні і закон гэта дазваляе.

Адзіная саступка, якую адзначаюць назіральнікі за працэсам, – гэта тое, што гарадскія суддзі Сцяпурка, Казырыцкі і Ермаловіч дапусцілі да абароны А.Клімава ягоную жонку Тацццяну Леановіч. Атрыманы за дзень да канчатковага вердыкту статус абаронцы дазволіць ёй наведваць мужа ў турме калі заўгодна, а не раз у паўгода, як проста жонцы вязня. А сядзець А.Клімаву яшчэ тры з паловай гады. У якой калоніі – пакуль невядома. ■

# Сколько стоит виза?

Василий ЯКОВЛЕВСКИЙ

За последние годы Республика Беларусь установила с некоторыми странами безвизовый режим. Например, с Южно-Африканской Республикой. Сохраняются безвизовые поездки белорусских граждан в Турцию, на Кипр и пока в соседнюю Польшу. Однако большая группа стран (Болгария, Румыния, Чехия и др.), в связи с гармонизацией отношений с Европейским Союзом, решили ввести визы для граждан Беларуси.

Для сравнения: в японском посольстве в Беларуси одноразовая виза стоит 10 долларов США, а вот в белорусском посольстве в Токио такая же одноразовая виза стоит 8.600 йен (почти 86 долларов США). Немецкую визу сроком до 30 дней в консульском отделе посольства ФРГ можно купить за 40 немецких марок. Раньше она стоила немного дешевле – 20, а потом 30 марок. Полугодовая немецкая виза стоит 70 марок, а годовая – 100. Зато белорусская виза для немцев стоит уже 100 марок, а многоразовая – 500 марок.

Существенная разница существует и между белорусской и израильской визами. В Минске однократная виза стоит 17 долларов США, а в Тель-Авиве – 265 шекелей (около 66 долларов США).

За однократную Шенгенскую визу, открываемую в Посольстве Франции в Беларуси, надо платить 24 доллара США. За получение белорусской французы должны отдать почти в два раза больше – 300 франков (почти 46 долларов США).

Незначительно отличаются по стоимости однократная белорусская виза в Великобритании и такая же британская виза в Беларуси – 40 фунтов (около 60 долларов США) и 54 доллара США соответственно. В американском посольстве за получение однократной визы надо заплатить 45 долларов за визит к консулу, а многократная обойдется уже в 100 долларов плюс те же 45 за визит к консулу. В белорусском посольстве в Америке наша однократная виза стоит 50 долларов, а многократная – 170 долларов.

Визы в соседние Литву и Латвию стоят столько же, сколько и белорусские визы в этих государствах. 20 долларов в Литве и 15 в Латвии. Кстати, в посольствах Литовской Республики во всех странах мира литовская виза стоит одинаково – 20 долларов. ■

www.open.by

# Ці вартае жыццё забітай настаўніцы 900 тысяч рублёў?

## Брэсцкія ўлады і суд лічаць, што не

Валянціна КАЗЛОВІЧ

Суд Ленінскага раёна Брэста толькі часткова задаволіў іск да аблвыканкама жыхара Жабінкі Івана Літвіновіча, дачка якога загінула пад коламі службовага аўтамабіля кіраўніка брэсцкай «вертыкалі» Васіля Далгалёва. На думку суда, указаная ў іску сума кампенсацыі маральнага ўрону была моцна завышаная. Такой жа думкі прытрымліваліся і прадстаўнікі Брэсцкага аблвыканкама.

Нагадаем, што Ірына Панасюк была збітая аўтамабілем *Volvo* позна вечарам 8 траўня. Па гэтым факце была ўзбуджаная крымінальная справа, аднак яе неўзабаве закрылі «з-за адсутнасці складу злачынства». Іван Літвіновіч абскардзіў такое рашэнне Брэсцкай раённай пракуратуры, напісаў ліст Аляксандру Лукашэнку. Наступным ягоным крокам стала падача іску да аблвыканкама з патрабаваннем пакрыць маральны і матэрыяльны ўрон у суме 1 мільён 549 тысяч 303 рублі (900 тысяч з іх – за маральныя пакуты). Акрамя таго, ісцец патрабаваў штомесяц да дасягнення асірацелай унучкай Янай 18 гадоў спаганяць з аблвыканкама суму ў памеры сярэднемесячнай зарплаты загінуўшай.

Судовае паседжанне па разглядзе гэтага іску працягвалася два дні, пакольки прадстаўнік адказчыка не згадзілася, што маральны ўрон заслугоўвае кампенсацыі ў суме 900 тысяч рублёў. У выніку матэрыяльныя прэтэнзіі істца былі задаволеныя поўнасцю, а вось маральныя ацэнены толькі ў 600 тысяч.

Паводле словаў маці загінуўшай – Яўгеніі Літвіновіч, ні 900, ні 600 тысяч не заменяць ёй адзінай дачкі, а Яне – маці. Асаблівы ж боль у сям'і выклікае тое, што Васіль Далгалёў, які сядзеў у аўтамабілі падчас аварыі, не прaявіў да іх гора спачування, і таму пакрыццё матэрыяльных і маральных затратаў прыйшлося патрабаваць праз суд. ■

БелаПАН

# Дуракам читать запрещается!







В прошлом номере газеты мы уже сказали несколько слов о фатальной неспособности некоторых людей к иному мировосприятию. В частности, мы отметили нетерпимость журналиста Ю.Дудинова и редакции «Народной газеты» к их коллегам из белорусской молодежной пародийной газеты «Навінкі», которая вылилась в заметку под названием «Выпендреж на добром имени». Но заметка была посвящена конкретному примеру дружеской пародии на этикетку лидского пива «Михась». Пародия основана на тождественности названия пива и уголовной клички одного известного российского авторитета.

И вот как зловеще эта шутка подана в «Народной газете»: **«В ней откровенно намекается, что выпуск нового сорта лидского пива «Михась» был осуществлен за криминальные деньги, а затем строчкой пониже конкретнее сообщается: выпуск пива организовал бандитский «авторитет» Михась... Расчет, скорее всего, был построен на том, что у нормальных любителей пива все это вызовет возмущение, скомпрометирует доброе имя завода. Хотя на деле все это не так, уголовщиной и криминалом на заводе и не пахнет».** Дальше – в том же сварливом, патетическом стиле Ю.Дудинов подстрекает Лидский пивзавод сделать нападение на «Навінкі» в суде. Хороши же будут пивовары, если поддадутся на этот призыв! Это будут реальные Новинки.

На месте ребят из газеты я бы поместил вверху, над колонтитулом, предупреждение, исполненное большими буквами: «Только для умных людей»... ■

# На БТ вернецца «Нянавісць»?

Кірыла ПАЗЬНЯК

У сераду Аляксандр Лукашэнка правёў чатырохгадзінную нараду з кіраўніцтвам і супрацоўнікамі Беларускай тэлерадыёкампаніі. Падчас сустрэчы ён афіцыйна прадставіў тэлевізійшчыкам новага кіраўніка БТ, старшыню Камуністычнай партыі Беларусі Віктара Чыкіна.

А.Лукашэнка пракаментаваў свой даволі незвычайны выбар новага кіраўніка Беларускага тэлебачання такім чынам: «Я даўно яго ведаю як чалавека цвёрдага, трывалага, з байцоўскімі якасцямі».

Асноўная ідэя прамовы А.Лукашэнкі – тэлебачанне мусіць заставацца праваднікам дзяржаўнай ідэалогіі. Гэта можна разглядаць як уладныя ўстаноўкі супрацоўнікам тэлебачання і радыё па інфармацыйным абслугоўванні парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў.

Ён таксама паведаміў, што другі канал Беларускага тэлебачання будзе створаны на базе мінскага «8-га канала». Нягледзячы на тое, што «8 канал» – недзяржаўная структура, дзе ўдзельнічаюць прыватныя сродкі, БТ-2, па словах А.Лукашэнкі, «будзе абсалютна дзяржаўным тэлебачаннем – незалежна ад таго, хто будзе з'яўляцца заснавальнікам новай тэлекампаніі».

Што датычыць выступу В.Чыкіна, то лідэр кампартыі агульнымі месцамі выклаў сваю канцэпцыю развіцця тэлебачання, адвёўшы сабе на яе выкананне год і паабяцаўшы, што, калі ўсё не атрымаецца ўдала, то ён праз гэты тэрмін сыдзе ў адстаўку.

Якім хоча зрабіць БТ Віктар Чыкін, можна ўжо цяпер зразумець па першых кадравых перастварэннях. Так, напрыклад, з 23 жніўня на пасаду галоўнага рэдактара тэлевізійнай рэдакцыі літаратурна-драматычных перадачаў падабраны рэжысёр Юрый Азаронак. Той самы, што зняў адмысловa для БТ напярэдадні траўеньскага рэферэндуму 1995 года фільм-дапаўку «Нянавісць: дзеці хлусні», дзе сродкамі мантажу праводзіліся паралелі паміж апазіцыяй і фашыстамі. Памятаецца, што тады адразу пасля выхаду фільма па загаду Мікола Статкевіч адвесіў Азаронку поўху. Потым аўтар «Нянавісці» нешта знік, але цяпер, відаць, зноўку стаў запатрабаваным. ■

# Прафсаюзныя босы зляцеліся ў Мінск

Рыгор БУЯН

Учора ў Мінску на базе штабкватэры Садружнасці незалежных дзяржаваў сабраліся прафсаюзныя лідэры з краінаў СНД. Лідэры прафсаюзных цэнтраў Беларусі, Расіі, Украіны, Малдовы, Казахстана, Кыргызстана, Таджыкістана і Арменіі абмяркоўвалі ролю прафсаюзаў у інтэграцыі і праблему выканання прафсаюзных правоў на шырокіх прасторах былога СССР.

У штаб-кватэры СНД прафбосаў вітаў выканаўчы сакратар Юрый Яраў і старшыня Эканамічнага савета Садружнасці віцэ-прэм'ер Беларусі Леанід Козік. Потым лідэраў прафсаюзных арганізацыяў прыняў першы віцэ-прэм'ер Андрэй Кабякоў.

Сёння прафсаюзныя лідэры СНД усёй талакой ад'язджаюць у Брэст, дзе маркуюць прыняць заяву супраць прыціснення прафсаюзаў у краінах Садружнасці. ■

# БНФ рыхтуецца да байкоту

Рыгор БУЯН

26 жніўня ў Мінску пройдзе традыцыйнае паседжанне Сойма БНФ Вінцука Вячоркі. Кіраўніцтва Фронту плануе абмяркаваць тэхнічныя пытанні рэалізацыі актыўнага байкоту выбараў у палату прадстаўнікоў як у Мінску, так і ў іншых рэгіёнах рэспублікі. Такое рашэнне прыняла аб'яднаная апазіцыя, і БНФ не збіраецца адыходзіць ад яго ні на ёту. Больш за тое, Фронт дасць адэкватную ацэнку некаторым апазіцыйным партыям, якія насуперак рашэнню Кангрэса дэмакратычных сілаў удзельнічаюць у выбарах. Ні для каго не сакрэт, што пад фронтаўскую крытыку найперш трапіць БСДП (Народная Грамада), якая, афіцыйна не прыняўшы рашэння аб удзеле ў выбарчай кампаніі, тым не менш не забараніла сваім сябрам балатавацца ў палату. І нават сам старшыня Мікола Статкевіч зарэгістраваў ініцыятыўную групу ў Каліноўскай выбарчай акрузе №107, тым самым даўшы зялёнае святло ўсёй партыі. ■

# 13 гадоў турмы для Рыгора Кісяля

Валянціна КАЗЛОВІЧ

Да 13 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў ППК узмоцненага рэжыму прыгавораны судом Ленінскага раёна Брэста былы жыхар абласнога цэнтра і былы дырэктар фірмы «WAM» Рыгор Кісель. Суд таксама вырашыў канфіскаваць маёмасць махляра і абавязаў яго выплаціць буйную суму пацярпелым.

У пачатку 90-х гадоў Кісель прапанаваў пабудаваць у абласным цэнтры фешэнебельныя двухузроўневыя дамы па вуліцы Савецкай і нейкім чынам здолеў «прабіць» у гарвыканкаме праект зносу старых будынкаў і забудовы гістарычнага квартала. Аднак дзяржаўная інспекцыя па ахове гістарычнай спадчыны паставіла крыж на гэтых амбіцыйных планах. У той жа час, нягледзячы на шматлікія публікацыі ў друку аб незаконнасці дзейнасці ўзначальваемай Кісялём фірмы «WAM», людзі працягвалі даваць грошы прадпрымальніку, спадзеючыся на паляпшэнне жыллёвых умоваў. І толькі некалькі гадоў таму ўкладчыкі пачалі звяртацца са скаргамі на несумленнага прадпрымальніка ў праваахоўныя органы. А ён тым часам ужо змяніў брэсцкую прапіску на маскоўскую і гатовы быў з'ехаць з сабранымі грашамі. Праўда, не паспеў, пакольки быў затрыманы, змешчаны ў следчы ізалятар, і супраць яго ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле 90 КК (крадзеж маёмасці шляхам махлярства). ■

БелаПАН

# Памяць Аршанскай бітвы

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

БНФ рыхтуецца адзначыць Дзень вайсковай славы – 486-ю гадавіну са дня перамогі войскаў Вялікага Княства Літоўскага, якія на чале з Канстанцінам Астрожскім пад Оршай разбілі маскоўскіх захопнікаў. 23 жніўня намеснікі старшыні Фронту Юрый Хадыка ды Віктар Івашкевіч падалі заяўку на правядзенне акцыі ў Мінску.

На 8 верасня ў 18.00 арганізатары імпрэзы замовілі ўскладанне кветак да помніка на плошчы Перамогі, пасля чаго ўдзельнікі Дня вайсковай славы маркуюць прайсці да помніка Янкі Купалы на тэатралізаванае прадстаўленне і канцэрт. Падрабязнасці мерапрыемства арганізатары пакуль не абнародуюць.

Ю.Хадыка і В.Івашкевіч заўважылі, што сёлетняе святкаванне Дня вайсковай славы носіць выключна культурна-асветніцкі характар. Заяўнікі прапануюць Мінгарвыканкаму далучыцца да святочных мерапрыемстваў і звярнуцца ў Савет міністраў дзеля вызначэння 8 верасня як агульнанацыянальнага свята.

Сёлета, па традыцыі, 9 верасня святочныя мерапрыемствы пройдуць і на Крапівенскім полі пад Оршай – месцы бітвы, якая ўвайшла ў аналы беларускай гісторыі. Арганізатарам акцыі выступае мясцовы Культурна-асветніцкі цэнтр імя Уладзіміра Караткевіча. ■

# Прэзідэнт браў хабар

Вячаслаў БУДКЕВІЧ

На мінулым тыдні супрацоўнікамі Барысаўскага міжраённага аддзела ўпраўлення Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры МУС рэспублікі былі затрыманыя прэзідэнт канцэрна «Белаграмаш» міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання і начальнік аддзела знешнеэканамічных сувязяў гэтага ж канцэрна. Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе міністэрства ўнутраных справаў Беларусі, выкарыстоўваючы службовае становішча, гэтыя службовыя асобы атрымалі хабар у памеры 7 тысяч долараў ЗША. Вядзецца расследаванне.

Таксама на мінулым тыдні, але ўжо ў Брэсце, у Маскоўскім РАУС была ўзбуджаная крымінальная справа па факце хабарніцтва загадчыцы аднаго з аддзяленняў мясцовага медыцынскага вучылішча. Паводле паведамлення прэс-службы МУС, з'яўляючыся членам прыёмнай камісіі, яна ў якасці гарантыі паступлення аднаго з абітурыентаў, паклала ў кішэнь атрыманыя ад яго бацькі 700 долараў ЗША. ■

БелаПАН

# «Наблюдателей здесь не должно быть»

Рыгор БУЯН



23 августа Минский горсуд оставил обвинительный приговор Ленинского суда в отношении депутата Верховного Совета 13-го созыва Андрея Климова в силе — шесть лет лишения свободы. Это решение может отрицательно сказаться на отношении мирового сообщества к осенним выборам, поскольку одним из четырех условий для признания выборов демократичными является освобождение всех политзаключенных. Этот факт, а также последние заявления Александра Лукашенко, непосредственно связанные с выборами в палату представителей, комментирует кандидат в депутаты Михаил Чигирь.

***— 23 августа Минский городской суд оставил в силе приговор Андрею Климову, признанному международными правозащитными организациями, как и Вы, узником совести. Как Вы прокомментируете этот факт?***

— Что комментировать? Депутаты вселились в дом, построенный Климовым, а самого Климова не защитили, хотя должны были защищать. Я думаю, что этот приговор вынесен по указанию сверху. Такое решение Мингорсуда было прогнозируемо. До суда Климов очень долго находился за решеткой. Чтобы как-то оправдать его длительное заключение, суд был запрограммирован на подобный приговор. Если бы ситуация в стране была иной, то суд ведь мог вынести *любое* решение.

***— 23 августа на совещании с руководством Александр Лукашенко сделал заявление: «Идеология не подлежит приватизации. Телевидение останется монополией государства». Как Вы расцениваете подобные высказывания?***

— Лукашенко никогда не выпустит из-под своего контроля средства массовой информации, потому что в этом случае его политическая жизнь будет весьма недолговечной. Телевидение — то оружие, которым Лукашенко не даст воспользоваться никому. Ведь Белорусское телевидение содержит не Лукашенко, а налогоплательщик. В любом цивилизованном государстве как Лукашенко, так и оппозиция имели бы к нему равный доступ. Но Лукашенко не пойдет на демонополизацию телевидения, потому что он боится потерять власть.

***— Международное сообщество поставило перед белорусскими властями четыре требования: гарантированный доступ оппозиции к государственным СМИ, прекращение политических репрессий, демократизация Избирательного кодекса, расширение полномочий парламента. На Ваш взгляд, эти условия выполнены или проигнорированы?***

— Эти требования полностью не выполнены. До меня дошла информация, будто я как кандидат в депутаты якобы поддерживаю приезд международных наблюдателей на осенние выборы. Я приезд наблюдателей не поддерживаю. Условия не выполнены, наблюдатели здесь не должны быть, а значит, эти выборы не должны быть признаны. Несмотря на то, что в них участвуют Чигирь, Статкевич и другие. ■

# Цырк на ровары: міліцыянт у дазоры

Ігар КАРНЕЙ,
Радыё «Свабода»

**Міліцыянты трох раёнаў беларускай сталіцы пачалі асвойваць новы сродак руху. Гэтым разам сілавікоў ніжэйшага звяна пасадзілі на ровары.**

Ідэя перасадзіць частку міліцыянтаў на ровары нарадзілася выпадкова. Мінскі велазавод, не маючы грошай, каб заплаціць падатак на бяспеку, прапанаваў упраўленню ўнутраных справаў Мінгарвыканкаму бартэр гатовай прадукцыяй – прыгадаўшы, што ў 30-я гады польскі корпус аховы памежжа выкарыстоўваў аналагічны сродак перасоўвання. Да ўсяго ж, у якасці галоўнага аргумента былі названы асноўны фактар нечаканасці – бясшумнасць. Прынамсі, кіраўнікоў аддзелаў унутраных справаў Заводскага, Цэнтральнага ды Фрунзенскага раёнаў аргумент уразіў.

Цяпер у эксперыменце ўздельнічаюць 10 ровараў «Бусел» і 20 міліцыянтаў, якіх адбіралі перш за ўсё паводле камплекцыі. Усе яны кінутыя на патруляванне вадасховішчаў ды лесапаркавых зонаў.

Але ўжо першыя дні выпрабаванняў акрэслілі шэраг праблемаў. Пачалося з таго, што два ровары амаль адразу ж былі скрадзеныя: зручнасць патрулявання скончылася, калі трэба было на нейкі час дзесьці прыпаркавацца. Па-другое, адразу ж паўстала пытанне наконт адмысловай формы: непрыстасаваныя да велапрабегаў шырокія калашыны ўвесь час трапляюць у ланцуг. А адзін з міліцыянтаў, напрыклад, наогул паскардзіўся, што з багажніка ўвесь час вывальваецца тэчка, і таму, прыціскаючы яе пад пахаю, прыходзіцца руляваць па калдобінах адной рукою. Да таго ж, экіпіроўка – а гэта пісталет, газавы балончык, дадатковая абойма, гумавы дручок, наручнікі, рацыя і ліхтар – замінае быць дастаткова мабільным.



Фота REX/ProMedia

На такім ровары замест жанчыны мусіць быць міліцыянт

Таксама ўзнікае пытанне, як сябе паводзіць у выпадку затрымкі злачынца: ці прывязваць таго да багажніка, ці пакідаць ровар да пары без нагляду ў патаемным месцы.

Але энтузіязм у кіраўніцтва аддзелаў застаецца: днямі з'явіліся прапановы пасадзіць на ровары і ўчастковых інспектараў. Вось як на гэта адрэагаваў інспектар з Фрунзенскага раёна, які не пажадаў назваць сябе, баючыся магчымых санкцыяў: «Словам, я так не супраць. Але я не ведаю, калі нас, участковых, перасадзяць на ровары, дык куды я ад іх дзенуся? На паверх жа я яго не пацягну, а калі пакіну ўнізе – сцягнуць ці колы параколваюць. Я не ведаю. Ну ўлетку на роварах, а зімой што – на лыжах? Я наогул не супраць, але як, што – не ведаю».

Прыгадваецца яшчэ адзін эксперымент, некалькі гадоў таму распачаты Мінскім ГУУС. Намеры пасадзіць конна значную частку міліцыянтаў скончыліся сціплымі паказчыкамі: у міліцэйскай стайні толькі тры скакуны. Пракарміць большую частку жывёлаў сталічная міліцыя проста не здольная.

Затое некаторыя іншыя сродкі руху, якія выкарыстоўваюць беларускія праваахоўнікі, не маюць аналагаў у свеце. Няма звестак, каб недзе яшчэ ў якасці адмысловага гарадскога транспарту былі задзейнічаныя сельскагаспадарчыя трактары. Практычна ўвесь парк гэтак званых «эвакуатараў» базуецца на прадукцыі МТЗ. Нягледзячы на тое, што Канстытуцыйны суд напачатку года рэкамендаваў прыпыніць дзейнасць эвакуацыйных групаў, колькасць трактарных брыгадаў не зменшылася, а гэтак званыя «штрафпляцоўкі» па-ранейшаму перапоўненыя.

Затое некалі папулярныя ў міліцэйскіх колах матацыклы засталіся толькі ў прэзідэнцкім эскорце. А вось верталёты дарожнага патрулявання, здаецца, зніклі наогул. ■

ПЯТЫ ВУГАЛ

# Люди и манекены

## Опыт экстрасенсорной публицистики

Александр ДУБРАВИН

**Меня пригласили на беседу за «круглым столом» по теме «Общественно-политическая ситуация накануне выборов». Стол в маленьком зале оказался и в самом деле круглым, а также большим, темным, лаковым, широким, красивым и засыпанным белыми бумагами. С огромной дырой посередине. Стол осеняло висевшее с легким наклоном красно-зеленое полотнище, формой напоминавшее раструб огнетушителя. Под раструбом сидели люди и манекены. Люди виднелись разные (полные, худые, молодые и не очень), но они выглядели независимо, сами по себе. Манекены же были все на одно лицо и держались корпоративно, как спички в коробке.**

Среди людей я увидел знакомых журналистов из независимых изданий и вольных стрелков из окрестных информационных угодий. А среди манекенов мною была замечена пара твердоголовых портновских кукол, обглоданных со всех сторон, словно крысами, коммунистическими догмами; одна ветхая полевая стрелковая мишень в полный рост, с пулевыми пробоинами в области головы; несколько муляжей из газет и серой ваты, обтянутых рваным коленкором редакционных диванов; деревянное приспособление, сделанное из остатков шлагбаума, под артикулом «Робот депутатский №2 с педалью», мягкая фигура из тряпичных лоскутков и желтое восковое учебное тело с резиновыми присосками вместо рук.

Люди и манекены создавали шум. Люди в чем-то энергично убеждали друг друга, запинаясь, ошибаясь, повторяясь и волнуясь, а манекены равнодушно резонировали, механически модулировали банальные словесные формулы («Выборы – это важно», «Люди ждут выборов», «Демократия – это народовластие», «Выборам нет альтернативы» и т.д.), задумчиво глядя на окружающих своими оловянными глазами-пуговицами.

Иерархически и конструктивно массив манекенов замыкался на фигуре кентавра в виде туловища человека в блестящих полковничьих погонах, совмещенного с безжизненным государственным стулом, который, в свою очередь, был соединен грибницей с манекенами, с другими аналогичными стульями, в других кабинетах, вокруг других столов различной конфигурации. Верхняя часть кентавра слегка сутулилась, топорщила седые волосы и улыбалась розовым лицом, словно ее веселили синхронные движения и артикуляция механических кукол, обычно таких беспомощных, безжизненных и бессильных. Из-за воротника мундира куда-то вверх тянулся багровый жгут пуповины, связывающий его с той Говорящей Головой, которая каждый вечер материализуется в темных углах наших квартир и становится для наших детей такой же привычной, как цветочный горшок, и которая всегда со знанием дела объясняет дуракам, как надо сеять, жать, оплодотворять, поднимать со дна моря атомные подлодки, вывозить навоз и усмирять агрессоров.

Я прислушался. Чу! Люди спорили о выборах. Они говорили о том, что предательство неких непорядочных субъектов, долгое время выдававших себя за людей, но подспудно взлелеявших в душе черную жабу неудовлетворенного самолюбия и жадности, перекинувшихся мумиями и зомби, поставило под угрозу единство всего человечества в нашей стране накануне позорных выборов в свиту Говорящей Головы. Что это чревато поражением людей в битве с манекенами. За словами людей стояло ясное понимание того, что это грозит гибелью всей нашей юной и прекрасной стране.



Что в результате их игрищ она может безвозвратно сползти туда, за край света, где кончается твердыня Вселенной, стоящая на трех китах, и где плещутся маслянистые воды небытия, в которых вечно стонут и мечутся души нехристей, монархистов, шовинистов, большевиков и грешников.

Люди говорили об этом и страдали. Их страдания испарялись и конденсировались на потолке. Манекены глупо улыбались. Кентавр содрогался от пароксизмов наслаждения, передавая сигналы по грибнице. Затем он сам сказал что-то в том смысле, что люди принесли ему очень мало информации. Что он не затем их позвал, чтобы следить за их чувствами. На некоторое время в зале повисла тишина.

Внезапно заверещала о чем-то стрелковая мишень и так же внезапно умолкла. Затем вдруг заговорили редакционные муляжи, и я не могу сейчас вспомнить ни одного их отдельного слова. Но речь, безусловно, шла о выборах. Несчастные, они не могли постичь сути вещей, уловить движения планет и светил, и, возможно, говорили только потому, что иначе оказались бы на свалке, среди фикусов и дырявых кастрюль.

Довольно! Наблюдатели на цыпочках потянулись из зала. На свежий воздух! В поля! В луга! В леса! В пампасы! Но что это?

— Вероятно, я единственный из присутствующих здесь, кто выдвинул свою кандидатуру на выборы в свиту Говорящей Головы, — заговорил внезапно мягким голосом один из журналистов, полненький и кругленький. — Но мне совершенно не стыдно и абсолютно не совестно мне.

— Нет-нет, — закричал какой-то муляж. — Ты не одинок. Мы тоже...

— Я каждый день таскаюсь по чужим квартирам, как старая сводница, как висельник в поисках веревки. Я пресмыкаюсь, я прошу всех подписывать мои мятые бумажки в поддержку меня, я агитирую за выборы меня туда, но я совершенно не в курсе. — На спину полненького журналиста, царапая когтями рубашку, забралась огромная лиловая ящерица и обвилась вокруг шеи, наподобие воротника. Лицо его побагровело. — Но я совершенно не в курсе, знает ли меня народ?

Вдруг послышался скрежет, скрип шарниров и удары дерева о дерево. На стол настойчиво карабкалось устройство «Робот депутатский №2 с педалью», сделанное из шлагбаума.

— Я, от имени и по поручению всех моих избирателей, всех тружеников района, по которому я выдвигаюсь... ■

Кірыла ПАЗЬНЯК

# Вандроўка ў Львоў – сённяшнюю Меку ўкраінскасці

**Даўно мне манілася з'ездзіць у Львоў. Знаёмцы казалі, што горад дужа прыгожы, з блізкага замежжа хіба што Рыга прыгажэй. Будавалі яго трохі на ўзор парыжскай архітэктуры. Нездарма менавіта ў Львове здымалі бестселерных «Трох мушкецёраў». А тут яшчэ расійскія тэлеканалы ўсё лета міжволі рабілі яму багатую рэкламу – рэпартажамі пра тое, як там іхнім суайчыннікам па-руску чытаць, гаварыць і нават думаць быццам бы не даюць. Хоць мне і без таго Украіна даўно была даспадобы. За «Дынама» кіеўскае, за мора і сонца крымскае, нарэшце, за тое, што мову сваю ўкраінскую, каб не ўмёрлі, не пакідаюць, што пазбаўляюцца «варшаўскага смецця і гразі Масквы», як пісаў іхні кабзар Тарас Шаўчэнка. Асабліва – якраз у Заходняй Украіне (Галіччыне), неафіцыйнай сталіцай якой і ёсць Львоў.**

Украінская мова ўдаецца тут у вушы ўжо на вакзале. А ўслед за таксістамі ёю ахінае ўсё навокал. Прадаўцы «Макдональдса» і іншых крамаў, пакаёўкі ў гатэлі, міліцыянты, кандуктары ў трамваях, прыбіральшчыцы, проста ўсіх узростаў мінакі на вуліцах — ...нават цыганяты просяць міласціну па-ўкраінску. Усяго ўкраінскай мовай гаворыць прыкладна 80% жыхароў. Прычым рускую можна пачуць толькі ў элітарным гістарычным цэнтры горада, пераважна ад наўмысна заселеных тут за савецкім часам этнічных расейцаў (у 800-тысячным Львове іх болей як 100 тысяч чалавек). На ўскраінах – спрэс украінскамоўнасць.

У тым жа Івана-Франкоўску ці Ужгарадзе руская мова – з'явішча зусім рэдкае, амаль выключна турыстычнае, але менавіта Львоў лічыцца самым «нацыяналістычным». Справа ў не менш як нахабных паводзінах памянёнай «пятай калоны», палітычна вельмі актыўна зарганізаванай у мясцовую арганізацыю Камуністычнай партыі Украіны і ў каля дзесятка ўсялякіх рускіх і прарускіх абшчынаў кшталту «Союза офицеров» і «Движения русского народа». Вось некалькі цытатаў з іхніх улётак: «Львов был и будет освобождён от бандеро-фашизма» (хто не ведае, Сцяпан Бандэра – нацыянальны герой Украіны, кіраваў Арганізацыяй украінскіх нацыяналістаў, якая з 1929 года вяла збройны чын супраць бальшавікоў, а потым і супраць нямецкіх акупантаў, забіты КДБ у Мюнхене ў 1959 г.); «Если в Западной Украине из-за относительно небольшой численности русских в регионе это ещё может быть предметом дискуссии, то в масштабах Украины не может быть и речи о том, чтобы считать их национальным меньшинством». Тады што, нацыянальная меншасць ва Украіне – самі ўкраінцы? Вымога дамінаваць у гасцях над гаспадаром – відавочная праява імперскага сіндрому і звычайнага хамства. Адсюль справядлівае абурэнне і гнеў: «гэць маскаля з нашай хаты!» (менавіта «маскаля», бо паміж рускім і «маскалём» ёсць розніца).

Ну, якая дыскрымінацыя, калі нават у «нацыяналістычнай» Галіччыне інфармацыйна-культурніцкая прастора збольшага якраз рускамоўная? Тэле- і радыёканалы, якія дзейнічаюць у Львоўскай вобласці, транслююць пераважна па-руску. Напрыклад, усеўкраінскі канал «Інтэр» – рускамоўны ледзьве не цалкам, апрача 10 хвілінаў прагнозу надвор'я і навінаў спорту на суткі. Прычым, па словах намесніка старшыні Львоўскай абласной рады Яраслава Піткі, эфір запоўнены «стараімперскім ідэйным хламам і рускамоўнай нізкапробнай шоу-прадукцыяй». Процівага – Львоўскае тэлебачанне, але яно ахоплівае толькі 40% насельніцтва, да таго ўсяго 3,5 гадзінамі вяшчання на дзень. На радыёстанцыях — украінскамоўнага эфіру 15%, рускамоўнага 50%, астатні час — перадачы на іншых мовах. Тое самае на кніжным рынку: расійскія выданні займаюць 92% па колькасці назваў і 70% – па агульных накладах. Школы забяспечаныя падручнікамі на ўкраінскай мове толькі на 65%. Замежнымі мовамі агучана звыш 95% аўдыё- і відэапрадукцыі. Да таго, між іншым, у той час, калі ў Расіі для некалькіх мільёнаў украінцаў няма аніводнай украінскамоўнай школы, то ў адным толькі «бандэраўскім» Львове дзейнічае цэлых 5 рускамоўных сярэдніх навучальных установаў.

Па такой сітуацыі не дзіўна, што ў траўні, чэрвені і ліпені Львоў агарнула адна з самых рэзанансных за дзесяцігоддзе хваляў у перманентным ваколмоўным супрацьстаянні, справакаваная гвалтоўнай смерцю народнага артыста Украіны Ігара Білазіра. За тое, што кампазітар спяваў сваю песню «Першы снег», а потым наважыўся давесці двум дзецюкам, што млелі пад блатную расійскую музыку, пра перавагі ўкраінскай песні і наогул украінскасці, тыя проста забілі яго металічнымі прутамі. Рэакцыя львавянаў сталася звышабуральнай. Быў разгромлены шэраг вулічных «кропак» продажу расійскай аўдыёпрадукцыі і кавярня, дзе ўсчаўся канфлікт і каля якой адбылося забойства. У цэнтры горада рабіліся маршы з выключэннем у барах расійскай музыкі. А на пахаванне кампазітара сабралася блізу 150 тысяч чалавек.



Панарама старажытнага Львова



Мітынг прыхільнікаў Сацыял-нацыянальнай партыі Украіны

Пасля шматлікіх зваротаў грамадскіх арганізацыяў і палітычных партыяў і жыхароў горада Львоўская мясцовая рада ўхваліла пастанову «Пра абарону гукавога асяроддзя ў горадзе Львове», якую тамтэйшая «пятая калона», расійскія тэлеканалы і міністэрства замежных справаў Расіі нотамі пратэсту «раскруцілі» як забарончыя захады ў дачыненні да рускай мовы. Але ж наўпрост пра гэта ў тым дакуменце і блізка не гаворыцца. Уводзіўся месячны «мараторый на трансляцыю і выкананне песень амаральнага зместу і нізкага эстэтычнага ўзроўню на вуліцах, плошчах і ў грамадскім транспарце», таксама прадугледжвалася, што ў пералічаных месцах максімальны гук не павінен пераўзыходзіць санітарных нормаў у 70 дэцыбелаў. І ўсё. Хто ж вінаваты, што песні «амаральнага зместу і нізкага эстэтычнага ўзроўню» – гэта звычайна «папса» і «блатняк» менавіта расійскага паходжання. Разам з тым на тэрыторыі Заходняй Украіны было прыпыненае вяшчанне рускамоўнай і антыўкраінскай па змесце радыёстанцыі «Наше радио».

Але, у прынцыпе, глабальная хваля ўкраінізацыі, з распаўсюджваннем, як задумвалася, на Усходнюю Украіну, не ўдалася. Хоць на Львоўшчыне «нацыянальная рэвалюцыя» плён дала: абласныя ўлады прынялі нізку важных ухвалаў па стварэнні ў вобласці спрыяльнага рэжыму развіцця ўкраінскай мовы як дзяржаўнай. У прыватнасці, з 1 верасня справаводства як у дзяржаўных, гэтак і ў прыватных арганізацыях і прадпрыемствах будзе выключна ўкраінскамоўным, а фірмы, што гандлююць толькі ўкраінскамоўнай друкаванай і аўдыё- і відэапрадукцыяй, звальняюцца ад падаткаў. І наадварот, на рэалізацыю іншамоўнай з 1 кастрычніка ўводзіцца мясцовы 50% збор ад агульнага кошту тавару. Да 1 студзеня 2001 года будзе праведзеная пераатэстацыя на валоданне ўкраінскай мовай афіцэрскага складу ў войску.

Зараз у цэнтры Львова на майдане Свабоды каля помніка Тарасу Шаўчэнку народ стыхійна кожную нядзелю збіраецца на своеасаблівыя вячоркі. Гадзінаў з 5-ці за самыя прыцемкі львавяне стараюцца гучна пераспяваць, перакрыць музыку навакольных бараў, якая пасля ліпеньскага «мараторыя» зламысна ўключаецца на поўную катушку. На адно з такіх забаўных і зацятых супрацьстаянняў жывых украінскіх галасоў і магнітафонных дынамікаў давялося патрапіць. Тут вам і лірыка, і бандэраўскія маршы, і вясёлыя песенькі. Падумалася тады: а ці можа такое быць у Мінску? І справа не толькі ў тым, што проста разгоняць міліцыянты. У нас нават на арганізаваных апазіцыйных шэсцях спявае адно што каля дзесятка чалавек, ды і то нейкую гадзіну.

Львоўскія вячоркі – толькі адна з праяваў па-еўрапейску разняволенага баўлення часу. Зноў жа, напрыклад, дзе ў беларускіх гарадах пабачыш, як штодня дзядзькі ў самым цэнтры места гуляюць у шахматы. Прычым на лаўках – да дзесятка дошак. Тут нават пустыя бутэлькі дзяды і бабулі збіраюць неяк інтэлігентна, прыстойна апранутымі і без саплівай падпітасці.

Гістарычны Львоў, дзе любяць адпачываць львавяне, займае дзесьці траціну горада. Брукаваныя вуліцы. Старым будынкам па некалькі стагоддзяў, таму многія вонкава фізічна занепадаюць і нешта пастаянна знаходзіцца ў рэстаўрацыйных рыштаваннях. Мноства цэркваў, пераважна грэка-каталіцкіх: 80% насельніцтва – уніяты. Уся гэтая старажытнасць багата аздобленая духам сучаснай украінскасці – процьмай помнікаў і назвамі вуліцаў у гонар нацыянальных герояў, у тым ліку найноўшай гісторыі (напрыклад, з'явіўся праспект Вячаслава Чарнавіла, на працягу многіх гадоў лідэра Руха). Замест Леніна і Маркса, Пушкіна і Лермантава і іншых імёнаў-прыхадняў. Дарэчы, прысутнічае ў Львове і беларускасць. Ёсць вуліцы Мінская, Скарыны і Купалы, помнік Міцкевічу.

Беларусаў тут любяць, вызнаючы вядомы лозунг «За нашу і вашу свабоду!» І што праўда, не любяць маскалёў. Як і камуністаў. У адрозненне ад Беларусі, ва Украіне, а тым больш у галічан, дзе ўкраінскамоўнасць ёсць натуральнай, нацыяналіст — абсалютны сінонім патрыёта (наўрад ці наш мінюст зарэгістраваў бы партыю з падобнай назвай, як Кангрэс украінскіх нацыяналістаў). Хоць трапляюцца львавяне з проста звышукраінскасцю. Давялося пазнаёміцца з наіўназаўзятым і трохі эпатажным нацыяналістам 70-гадовым дзедам Міраславам, які быў «бандэраўцам» ужо ў шостым класе: аднойчы выкалаў вока партрэту Сталіна. Калі дзед гаворыць, дык бывае ад усмешкі проста не ўтрымацца. Так, напрыклад, ён даводзіў, што, калі недзе за мяжой вучоныя даследавалі, «важылі» мазгі, то ўкраінскія апынуліся на першым месцы, а газу ў адной толькі Галіччыне было «на тысячу гадоў», але пасля вайны «прыйшлі маскалі і за два дні ўсё папалілі».

Але што да галіцкай палітычнай тэрміналогіі, то за нацыяналістычныя сілы ўважаюцца збольшага маладзёжныя УНА-УНСО, «Трызуб» імя Бандэры, Сацыял-нацыянальная партыя і ўжо згаданы КУН. Гэта апазіцыя. А ў мясцовай уладзе стаяць усяго толькі нацыянал-дэмакраты – рухаўцы, аналаг нашага БНФ. Уяўляецца такое ў нас? ■

***P.S.** Ад вольнасцяў Львова мяне асадзілі ўжо ў цягніку на Мінск на ўкраінска-беларускай мяжы. Спраўджваючы маю асобу, памежнік доўга то падазрона ўглядаўся ў мой пашпарт, то ў нейкія спісы. Потым запытаўся: «Родственник или однофамилец?»*

*Прывітанне, Радзіма!*




Ушанавальны знак памяці на месцы, дзе быў забіты Ігар Білазір



Тут паўстане помнік Сцяпану Бандэру

